# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Аўторак, 28 чэрвеня 1994 года | № 67 (10767) | Цана 100 руб.





■ Юбілеі

## МІНСКАМУ МЕТРО — 10

*Маляўніча афармлены запрашальны білет на ўрачысты мітынг, прысвечаны пуску ўчастка першай лініі метрапалітэна, і цяпер захоўваецца ў мяне як памятны сувенір. Гэта была сапраўды знамянальная падзея для жыхароў беларускай сталіцы. Невыпадкова тады, 29 чэрвеня 1984 года, станцыя "Плошча Леніна" была поўнасцю запоўнена — кожнаму хацелася стаць першым пасажырам Мінскага метро.*

Пятнаццаць гадзін. Кароткі мітынг — і вось ужо гучыць аб"ява:"поезд №1 адпраўляецца. Праз пяць хвілін — наступны".

Так пачаўся рух на ўчастку ад станцыі "Інстытут культуры" да "Маскоўскай". Работнікі метро расказвалі, што ў першыя дні наплыў пасажыраў дасягаў паўмільёна і больш. Мінчане спецыяльна прыходзілі сюды, каб пагледзець, што стварылі будаўнікі пад зямлёю. А дзейнічала толькі восем станцый на ўчастку "Інстытут культуры" — "Маскоўская" адлегласцю 7,84 кіламетра. Сёння ж мы едзем і да станцыі "Усход", а таксама карыстаемся лініяй другой чаргі. Адлегласць метро падвоілася і раўняецца цяпер 15,6 кіламетра. Штодзённа перавозіцца 420 тысяч чалавек.

У бліжэйшы час увойдзе ў эксплуатацыю ўчастак ад станцыі "Фрунзенская" да "Пушкінскай". А затым пачнецца рух па маршруце "Трактарны завод" — "Аўтазаводская" — "Магілёўская".

Перспектыва да 2000 года — пракласці лініі метро да Кунцаўшчыны, прадоўжыць першую чаргу да мікрараёнаў Паўднёвы Захад і Уручча.

Вядома, будаўніцтва падземкі вельмі дарагая рэч. Але гэта акупляецца тым, што метро — экалагічна чысты від транспарту, ды і ўвогуле яго пасажыр абыходзіцца дзяржаве амаль у тры разы дзешавей, чым пасажыр аўтобуса.

Для нас метро сёння ўжо стала прывычнай з"явай. Мы па праву ацанілі яго зручнасць, высокую культуру абслугоўвання, дакладнасць руху паяздоў. Гэта заслуга дружнага калектыву метрапалітэна. Віншуючы з юбілеем, хацелася б пажадаць ім далейшых поспехаў у нялёгкай і адказнай рабоце. І каб хутчэй вырашаліся праблемы, якія не абмінулі і іх.

Скажам, увод новых станцый другой чаргі патрабуе расшырэння рухомага саставу. Дзе яго ўзяць, калі ў гарадскім бюджэце няма патрэбных сродкаў? Адзін вагон каштуе 300 мільёнаў расійскіх рублёў. А сёлета спатрэбіцца для абслугоўвання новага ўчастка другой лініі 28 вагонаў.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

## СЁННЯ Ў НАШАЙ ХАЦЕ СВЯТА, КАЛІ ЛАСКА — У НАШУ ХАТУ...

**Сэнс гэтых слоў з папулярнай беларускай песні найбольш трапна характарызаваў атмасферу ўрачыстасцей, што прайшлі ў мінулую суботу і нядзелю ў гарадскім пасёлку Узда з нагоды 500-гадовага юбілею. Ды і сама песня неаднаразова гучала на святочных пляцоўках райцэнтра.**

Пачатак святкаванню даў сход грамадскасці пасёлка і раёна з удзелам ганаровых гасцей, дэлегацый раёнаў Стаўбцоўскага, Маскоўскага г.Мінска, Дамадзедаўскага Маскоўскай вобласці, якія супрацоўнічаюць з Уздзенскім раёнам. Удзельнікі сходу праслухалі даклад намесніка старшыні райвыканкома Наталлі Шыянок, выступленні-віншаванні дырэктара швейнай фабрыкі Ганны Санковіч, старшыні калгаса "Зарэчча" Тамары Жыгалковіч, ветэрана вайны і працы Уладзіміра Парабковіча, калектыву школы мастацтваў, выхаванцаў дзіцячага сада № 4, старшыні выканкома Стаўбцоўскага гарсавета Вячаслава Цвірко, намесніка кіраўніка адміністрацыі Дамадзедаўскага раёна Аляксандра Лаўрухіна. Сход завяршыўся вялікім святочным канцэртам.

Другі дзень святкавання пачаўся з урачыстай літургіі, якую правёў у мясцовай царкве мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы экзарх усяе Беларусі. Затым на гарадскім стадыёне, Чырвонай плошчы прайшлі канцэрты самадзейных калектываў Уздзенскага, Вілейскага, Стаўбцоўскага і іншых раёнаў вобласці, парад шэрагу духавых аркестраў вобласці.

У другой палове дня адбыўся футбольны матч паміж ветэранамі мінскага "Дынама" і ўздзенскім "Нёманам", былі наладжаны выступленні вучняў Дзешчанскай коннаспартыўнай школы. А вечарам уздзенцы змаглі паслухаць выступленне ансамбля "Сябры", паглядзець маляўнічы святочны феерверк.

Дапаўнялі свята конкурсы, гульні, вечары адпачынку, якія былі наладжаны ў многіх месцах пасёлка. Працаваў выязны гандаль.

*(Наш кар.).*

## З ПАЛІГОНА — НА ПАШУ

Сёння на пашы некаторых калгасаў Старадарожчыны мнуць траву колы БТРаў. Але гэта нікога не хвалюе, хутчэй наадварот...

Калі ў суседнім Слуцку пачалі, згодна з дагаворам, знішчаць частку бронетранспарцёраў, да ваенных адразу завіталі работнікі райаграпрамтэхнікі. І купілі за невысокую цану нікому ўжо не патрэбныя колы з баявых машын. Паставілі на іх вялікія карыты. І прапанавалі жывёлаводам раёна: купляйце, вязіце на пашу, запаўняйце вадой, паіце кароў. А надзейныя баявыя колы дазволяць лёгка перацягваць карыты з аднаго месца ў другое. Наўрад ці хтосьці паквапіцца на іх, бо для аўтамашын колы не падыдуць...

Семнаццаць такіх паілак на колах зрабілі рамонтнікі. Навінкаю адразу зацікавіліся калгаснікі. Бо каштуюць паілкі ўсяго паўмільёна, у той час як з іншай "хадавой" — у два разы даражэй. Добра, што колы, якія выраблялiся для вайны, прыносяць нейкую карысць у нашай мірнай працы.

*/Наш кар./.*

## ЧАМУ ТАК ЗДАРЫЛАСЯ І ШТО МОЖА БЫЦЬ ДАЛЕЙ?

**Думаецца, для многіх вынікі першага тура прэзідэнцкіх выбараў сталі даволі нечаканымі. Чаму так здарылася? Што будзе далей? На гэтыя пытанні карэспандэнтаў Белінфарма адказваюць**

***Дырэктар Цэнтра стратэгічных ініцыятыў "Усход—Захад" Анатоль МАЙСЕНЯ:***

— У прынцыпе, лабараторыя аксіяметрычных даследаванняў "Новак", якая па нашаму заказу рабіла прагнозы вынікаў выбараў, прагназіравала перамогу Аляксандру Лукашэнку. Але такога вялікага адрыву ад прэм'ера мы не чакалі. Я тлумачу гэта тым, што сам Кебіч і цяперашняя палітычная эліта не змаглі стварыць цэльнай праграмы. Да таго ж, каманда Старшыні Савета Міністраў у агітацыйнай кампаніі зрабіла ўпор не на пераконванне людзей, а на сілавыя метады. Гэта спрацавала бумерангам. Усе імкненні дыскрэдытацыі, збору кампрамата на Лукашэнку прыцягнулі на яго бок тых людзей, якія да апошніх дзён па ўсіх выніках апытанняў праходзілі ў графе тых, хто не вызначыў сваю пазіцыю. Адным словам, як і ва ўсіх постсацыялістычных краінах, у Беларусі вынікі выбараў — гэта своеасаблівая форма пратэсту народа супраць рэзкага пагаршэння ўзроўню жыцця. І менавіта таму ў другім туры галасавання я расцэньваю шанцы Лукашэнкі як вельмі высокія.

***Кіраўнік Цэнтра даследаванняў будучыні Аляксандр ПАТУПА:***

— Паводле маіх прагнозаў, якія я рабіў раней і з якімі добра знаёмы тэлегледачы і чытачы шэрагу газет, першым Прэзідэнтам павінен стаць прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч. І сёння я па-ранейшаму ўпэўнены ў гэтым.

Такога анамальнага выніку не чакаў ніхто. Тым не менш трэба ўлічваць, што адбыўся толькі першы тур галасавання. Больш таго, такія вынікі надзвычай карысныя для нашага народа. Яны створаць стымул для з'яўлення "другой звіліны". Народ, выбіраючы далей, стане думаць. Цяпер усё будзе залежаць ад хуткасці фарміравання "другой звіліны". Я думаю, што наша каманда мае ўсе шанцы на перамогу ў другім туры.

***Дырэктар Інстытута сацыялогіі Акадэміі навук Беларусі Яўген БАБОСАЎ:***

— Такі вялікі адрыў Аляксандра Лукашэнкі ад Вячаслава Кебіча я звязваю з бяздарнай арганізацыяй апошніх выступленняў прэм'ер-міністра перад выбаршчыкамі па Беларускім тэлебачанні. Стваралася ўражанне, што Вячаслаў Францавіч баіцца размоў з апанентамі, абыходзіць вострыя пытанні. Хоць я асабіста ведаю, што ён умее добра трымацца і пры непрыемнай гутарцы. Да таго ж, той дробязны кампрамат у адрас Лукашэнкі, які ў апошнія дні перад выбарамі быў прадстаўлены аўдыторыі, даў зусім адваротны эфект і прыбавіў яму галасоў. Прагназіраваць зыход другога тура я пакуль што не бяруся, паколькі яшчэ не было часу дакладна прааналізаваць тое, што адбылося. Мне здаецца, могуць быць тры варыянты зыходу другога тура. Альбо, аб'яднаўшыся, кандыдаты, якія аказаліся ў пройгрышы, заклічуць выбаршчыкаў не аддаваць свае галасы ні Лукашэнку, ні Кебічу і тым самым "пракоцяць" абодвух. Альбо можа здарыцца, што каманда, якая ўступіла на першым этапе пальму першынства, мабілізуе рады, прааналізуе памылкі і ў выніку гэтага возьме рэванш. Ну а трэці варыянт — пераканаўчая перамога Лукашэнкі, паколькі ў яго па выніках першага тура сапраўды вельмі вялікі адрыў ад асноўнага саперніка.

***Старшыня праўлення Нацыянальнага банка, член каманды Станіслава Шушкевіча Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ:***

— Такі велізарны разрыў паміж першым і другім месцамі сапраўды вялікая нечаканасць. У той жа час тое, што Пазняк набраў больш галасоў, чым Шушкевіч, — для мяне асабіста такая ж нечаканасць. Я меркаваў, што будзе наадварот. Зноў жа, Дубко, паводле маіх прагнозаў, павінен быў аказацца ніжэй, чым Новікаў.

Станіслаў Багданкевіч згадзіўся, што па папярэдніх выніках першага тура галасавання можна меркаваць і аб канчатковых рэзультатах выбараў. На пытанне, ці застаецца ў сіле яго заява ў інтэрв'ю "Народнай газеце" аб тым, што галоўны банкір рэспублікі гатовы працаваць з любым прэзідэнтам, — Станіслаў Антонавіч адказаў: "Заява зроблена, і я не адмаўляюся ад сваіх слоў. Гатовы разам працаваць, у тым ліку і з А.Лукашэнкам, але так, каб у аснове супрацоўніцтва ляжалі прынцыпы. Увогуле ж, я лічу, што абнаўленне, у тым ліку і кіраўніцтва, неабходна рэспубліцы ў любой форме".

*БЕЛІНФАРМ.*

## НАСУПЕРАК ПРАГНОЗАМ

Выбары першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь прайшлі, насуперак некаторым прагнозам, пры даволі высокай актыўнасці выбаршчыкаў. Мінскую вобласць у гэтых адносінах можна назваць у ліку лідэраў. У спісы было ўнесена 1 мільён 175 тысяч 537 чалавек. Галасавала 973 тысячы 936. Або 82,8 працэнта. Вынікі выбараў аказаліся наступныя:

Дубко — 7,9 працэнта

Кебіч — 14,9 працэнта

Лукашэнка — 44,5 працэнта

Новікаў — 4,3 працэнта

Пазняк — 15,3 працэнта

Шушкевіч — 8,6 працэнта

Несапраўдных бюлетэняў выяўлена 18.788.

Фальсіфікацый, падману або якіх-небудзь падтасовак не было.

*/Наш кар./.*

Слесар Капыльскай райаграпрамтэхнікі Алег **СЯНЬКЕВІЧ** асвоіў выраб вёдраў, якія карыстаюцца попытам у насельніцтва.

*Фота Анатоля БАСАВА.*

## ЛАНСКІЯ ВУЗЛЫ

Вёска Лань — цэнтральная сядзіба калгаса імя Леніна Нясвіжскага раёна — знаходзіцца ля вытоку аднайменнай рэчкі. З непрыкметных крыніц на поплаве вузенькае рэчышча паступова пашыраецца, бяжыць уздоўж сялянскіх сядзіб, абгінае кустоўе, бярэ кірунак на поўдзень рэспублікі.

Вясною і летам вёска патанае ў садах і, здаецца, прыслухоўваецца да булькання вады. І ўсё ж да ідыліі далёка. У Лані, як і паўсюдна ў рэспубліцы, шмат праблем, няпростых эканамічных вузлоў, развязаць якія не заўсёды пад сілу нават умудроным жыццёвым вопытам гаспадарнікам.

Мой даўні знаёмы брыгадзір паляводчай брыгады Аляксандр Буглай, які, можна сказаць, "з"еў зубы" на сваёй пасадзе, разважае:

— Вёску заціскаюць высокімі цэнамі на тэхніку, "мінералку", будматэрыялы. Каб купіць звычайны лямеш (раней каштаваў капейкі), трэба выкласці з кішэні тысячы "зайчыкаў". Адкуль іх набраць? Мы ж раз у год збіраем ураджай збожжа, бульбы, цукровых буракоў. Прадалі прадукцыю, атрымалі грошы (а яны абясцэньваюцца ўвачавідкі) — і круціся як можаш. Добра, што ёсць такі-сякі запас у нашых механізатараў — запчастак, вузлоў, механізмаў. Гэта і дазволіла правесці сёлета ў тэрмін сяўбу ячменю, прапашных культур.

Наконт развіцця фермерства ў Буглая свая думка: "Трэба, каб дзяржава плячо падставіла. Крэдытамі, насеннем, зручнай тэхнікай дапамагла. Бо нават каня сёння не купіш. А хто згодзіцца саматугам ірваць жылы на сваім "шнурку"?

Сын брыгадзіра Аляксандр з дыпломам агранома працуе побач з бацькам. Калі ў раёне падбіралі кандыдатуру для паездкі ў Швейцарыю на стажыроўку да фермераў, выбар прыпаў на яго. Чатыры месяцы Буглай-малодшы асвойваў азбуку гаспадарання ў далёкай краіне. Пераканаўся, што славіцца яна не толькі знакамітымі сырамі, але і надзвычай працавітымі людзьмі. "Там няма такіх доўгіх перакураў, як у нас, — расказвае Аляксандр. — Швейцарскія сяляне даражаць кожнай хвілінай. Я, як практыкант, разам з гаспадаром-фермерам уставаў на золку і ўвесь дзень шчыраваў па гаспадарцы. Вылічвалі з мяне за харчаванне, жыллё. Там усё лічаць, усё аналізуюць. Абібок будзе адчуваць сябе даволі няўтульна або папоўніць армію беспрацоўных. У нас жа ёсць людзі, якія сёрбаюць вялікімі лыжкамі ля грамадскага катла... Ці збіраюся стаць "аднаасобнікам", узяць надзел зямлі? Абдумваю гэты крок, узважваю ўсе "за" і "супраць". Магчыма, калі-небудзь і прыму рашэнне, хаця, каб накласці швейцарскі вопыт на сённяшнюю нашу рэчаіснасць, то вельмі гэта цяжка: розніца ў падыходзе як паміж небам і зямлёю".

Перад бацькам і сынам Буглаямі, як і перад усімі вяскоўцамі, сёння стаіць "кроўная" задача: не даць спустошыцца зямлі, бо застанёмся без хлеба, без бульбы, без цукру. Гэта там, "наверсе", можна бясконца дэбатаваць наконт зямельнага падзелу, а тут трэба закасваць рукавы. І добра, што хлебаробы гэта разумеюць, што вока сёння радуюць пасевы азіміны, ярыны. Састарэлыя людзі кажуць, што ўраджай чакаецца добры.

...Летась ад раслінаводства атрымалі 971 мільён рублёў выручкі. Лічба, здаецца, унушальная. Але ж колькі трэба гэтымі грашыма "залапіць дзірак"! Адна газавая кацельня на свінагадоўчым комплексе "з"ядае" за месяц мільёны і мільёны рублёў. Дарэчы, на комплексе звыш 15 тысяч свіней (раней было больш як 20 тысяч).

Каб спыніць "рух назад", праўленне калгаса і асабіста старшыня Анатоль Захарэвіч (нядаўна яму прысвоена званне "Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі Беларусі") робяць проста-такі немагчымае: "выбіваюць" дзе толькі можна канцэнтраты, мікрадабаўкі, абсталяванне... За ўсё гэта, вядома ж, трэба плаціць дзесяткі, сотні мільёнаў рублёў. Быў выпадак, калі Мінскаму мясакамбінату калгас адгрузіў 130 тон свініны і чакаў... некалькі месяцаў, пакуль пералічаць яму 600 мільёнаў рублёў. Людзі за гэты час не атрымлівалі зарплату, не было за што купіць бензін, дызпаліва...

Загадчык комплексу Алег Мурахоўскі лічыць, што ў апошні час справы паляпшаюцца. Удаецца захаваць маладых парасят, павысіць прывагі жывёлы на адкорме. Сёлета мяркуецца больш нарыхтаваць травяной мукі, фуражнага збожжа (востра стаіць пытанне аб будаўніцтве ўласнага камбікормавага завода, каб не "кланяцца" перапрацоўшчыкам, якія дзяруць за сваю прадукцыю сем шкур)...

Цяжка сёння селяніну. Завязваецца штодзённа безліч эканамічных вузлоў, вялікіх і малых. Але ён, селянін, не апускае рукі. І ў калгасе працуе, і на ўласным падворку. А.Захарэвіч расказаў, што "выкраілі" сродкі на будаўніцтва жылля не толькі ў Лані, але і ў аддаленых вёсках. Мяркуецца не спыняць газіфікацыю, асфальтаванне вуліц і дарог. Чым толькі можна тут падтрымліваюць вяскоўцаў. Прадаюць па льготнай цане збожжа, цукар, парасят. Многія набываюць кароў, бо калгас таксама дапамагае нарыхтоўваць фураж.

Напрадвесні давялося мне прысутнічаць у Лані на агульным сходзе калгаснікаў. Размова ішла аб тым, як жыць, як "выкруціцца" ў гэты няпросты час. Быў прыемна здзіўлены, калі рэгламент сходу парушылі пенсіянеры: "Мы хочам уручыць нашаму старшыні пшанічны каравай, які спяклі самі. За клопаты і дабрыню да людзей, асабліва да састарэлых". І адна з жанчын, Марыя Вярбіцкая, паднесла Анатолю Канстанцінавічу вялікі, прыгожы і светлы, як сонца, бохан. У зале заапладзіравалі. А старшыня крышку сумеўся, пасля сказаў: "Мы не пакінем у бядзе сваіх калгаснікаў, і працаздольных, і непрацаздольных". Захарэвіч аддаў той каравай у залу, і кожны прысутны змог яго пакаштаваць...

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

## ВЯРНУЛІСЯ З ГЕРМАНІІ

Па запрашэнню міжнароднай арганізацыі "Карэтас", якая спецыялізуецца на гуманітарнай дапамозе Беларусі, у Германіі чацвёрты раз пабываў народны фальклорны ансамбль "Крупіцкія музыкі" з калгаса "Новы быт" Мінскага раёна.

На працягу дзевяці дзён крупіцкія самадзейныя артысты далі 19 канцэртаў у Паўночнай Вестфаліі і Ніжняй Саксоніі. Адзін з іх праходзіў у царкве горада Хопстэн, што выклікала вялікае задавальненне ў мясцовых гараджан.

Як расказвае кіраўнік ансамбля "Крупіцкія музыкі" заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Уладзімір Гром, нямецкія гледачы цёпла сустракалі кожны нумар канцэртнай праграмы, адзначалі высокае майстэрства гасцей.

Усе сродкі, заробленыя ад канцэртаў на нямецкай зямлі, пералічаны на рахунак фонду па будаўніцтву бальніцы калгаса "Новы быт".

*Георгій ЛЯНКЕВІЧ.*

## З ІМЕМ ГЕРАІНІ

Многа цяжкіх вёрст у гады Вялікай Айчыннай вайны прайшла Зінаіда Міхайлаўна Тусналобава-Марчанка. У 1941 годзе яна закончыла школу медыцынскіх сясцёр. На фронт накіравалася ў красавіку 1942 года. Старшына медыцынскай службы, як сведчаць архіўныя дакументы, за 8 месяцаў вынесла з поля бою 128 параненых. У лютым 1943 года ў баях за станцыю Гаршэчнае Курскай вобласці была цяжка паранена. Ёй ампутавалі рукі і ногі. Аднак Тусналобава-Марчанка працягвала змагацца з ворагам: выступала перад рабочымі заводаў, па радыё, на старонках газет і часопісаў, заклікала біць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Моладзь уральскага завода ў нерабочы час пабудавала 5 танкаў і назвала іх імем гэтай жанчыны. На фронце былі самалёты і танкі з надпісамі "За Зіну Тусналобаву!" З імем гераіні воіны вызвалялі Беларусь. Ёй прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Аб мужнасці і гераізме, аб жыццёвым подзвігу патрыёткі, якая, як ужо адзначалася, стаўшы інвалідам пасля цяжкага ранення, знайшла ў сабе сілы для актыўнай дзейнасці, расказана ў кнігах і кінафільмах, яе імем названы вуліцы, школы. Стварыла цудоўную сям"ю. Цяпер Зінаіды Міхайлаўны няма ў жывых. Але мужны прыклад жанчыны жыве ў людскіх сэрцах. Аб чым яскрава засведчыў і той факт, што гэтымі днямі на пасяджэнні прэзідыума абласнога аддзялення Беларускага дзіцячага фонду тром мнагадзетным сем"ямМіншчыны прысвоены прэміі імя З.М.Тусналобавай-Марчанка. Хто ж яны? Адкуль?

Ніна Уладзіміраўна Місілевіч у аддзеле адукацыі Смалявіцкага райвыканкома працуе загадчыцай склада. Рана засталася без мужа. Адна выхоўвае пяцярых дзяцей. Жыве сям"я гэтай працаўніцы ў вёсцы Высокія Ляды. Пакуль мама на рабоце, дзеці гаспадарку дагледзяць, вячэру згатуюць. Усе яны карыстаюцца аўтарытэтам у аднавяскоўцаў: добрыя, чулыя. Сыны Уладзімір і Вадзім добрасумленна выканалі свой воінскі абавязак, цяпер працуюць у калгасе. Дачка Вольга — лепшая навучэнка Смалявіцкага ПТВ-204. А ў сярэдняй школе №2 райцэнтра ганарацца ведамі і паводзінамі сына Аляксея і дачкі Юлі. Ніна Уладзіміраўна для ўсіх іх служыць узорам. Яе мацярынскае крэда — болей душэўнай чуласці, любові і павагі да тых, каго выхоўваеш.

Ёсць цяпер лаўрэат прэміі імя З.М.Тусналобавай-Марчанка і ў вёсцы Гарадок Маладзечанскага раёна. Ім стала сям"я ветэрынарнага ўрача Мечыслава Іванавіча Тычко і яго жонкі — повара сталовай Валянціны Іванаўны, якія таксама выхоўваюць пяцярых дзяцей.

"Дзеці сям"і Стасюк старанныя ў навучанні, паказваюць прыклад у паводзінах, актыўныя ў грамадскай рабоце. Іх бацькі—муляр Уладзімір Андрэевіч і палявод калгаса Тамара Аляксандраўна — рэгулярна наведваюць школьныя мерапрыемствы, аказваюць дапамогу ў рамонце класных пакояў, робяць усё, каб іх сямейнікі пашырылі свой кругагляд, раслі сапраўднымі людзьмі", — чытаю характарыстыку, падпісаную старшынёй Урэцкага пасялковага Савета Любанскага раёна В.Н.Хамяковай.

У гэтыя дні сям"я Стасюк атрымлівае шмат віншаванняў — з нагоды прысваення ёй прэміі імя мужнай патрыёткі З.М.Тусналобавай-Марчанка.

*Уладзімір КОБРЫН.*

## Крымінал-тэлетайп з Салігорска

### "Крутыя" ў масках

У кватэру дваццацішасцігадовага Ігара Г. зайшлі госці. Ды не простыя. Няпрошаныя. «Крутыя». У масках. Гаспадар запратэставаў супраць такога візіту. За што быў моцна пабіты. Госці забралі з кватэры 940 долараў ЗША, 110 тысяч расійскіх рублёў, буйную суму «зайчыкаў», а таксама залатыя пячатку, пярсцёнак, ланцужок, скураную куртку і нават дыплом гаспадара аб заканчэнні тэхнікума.

Думаецца, маладому чалавеку менш за ўсё шкада дыплома. Бо ён нідзе не працаваў. Тым не менш, грошы, рэчы меў добрыя. Характэрная рыса нашых дзён

### Прызнанне ў каханні

У прыёмнае аддзяленне бальніцы звярнулася Н.Б. Яна падняла спадніцу, і ўрачы ўбачылі «колатую рану на левай ягадзічнай вобласці». Як высветлілася, зрабіў гэта даволі энергічны муж.

Не сакрэт, што ад моцнага кахання, бывае, надоўга застаецца ў сэрцы рана. Але каб на такім месцы... Магчыма, узрост «вінаваты». Н.Б. ужо далёка за пяцьдзесят. Як і яе мужу.

### Распранула...

Адзінаццацігадовая Жэня К. зайшла ў ліфт дома № 24, што на бульвары Шахцёраў, у куртцы, кофце і спартыўных штанах. А выйшла без гэтых рэчаў. І без заколкі ў валасах, якая каштуе больш за сто тысяч рублёў.

Рабаўніцу знайшлі хутка. Ею аказалася дваццацідзевяцігадовая Валянціна Г. з мясцовага калгаса «Акцябр». Што ўжо гаварыць пра жанчыну, якая распранае дзіця ў ліфце! Але ж і дзіцяці таму, думаецца, не варта насіць у валасах такія дарагія прынады. Не той узрост. Не той час.

### Ану, жанчыны!

Сёння мяняецца многае. Нават уяўленне, што жанчыны — сціплая, слабая палова чалавецтва. Ва ўсякім выпадку, некаторыя салігарчанкі спрабуюць гэта абвергнуць. Амаль у адзін дзень у міліцыю паступілі заявы, што на Чацвёртым рудніку раз"юшаная Тамара Ш. моцна пабіла Ніну А., а на станцыі Калій-1 тое ж самае зрабіла Галіна Б. з Галінай Л.

Не дай бог нам такой эмансіпацыі...

### Рэцыдывісты-"аграрнікі"

У аддзел унутраных спраў, гарвыканкам адна за другой пайшлі скаргі: з прыгарадных участкаў ноччу крадуць радыску, цыбулю. Да кожнай градкі ўчастковага не прыставіш. Таму па гарадскім радыё прагучаў зварот да несумленных людзей: у наваколлі горада выдзелены ўчасткі, у асноўным, пенсіянерам, інвалідам, не абкрадвайце бедных!

Ці дапаможа заклік — невядома. А вось летась адзін пенсіянер не стаў чакаць, пакуль у зладзеяў прачнецца сумленне, а залёг ноччу на сваім участку ў разоры з жалезным прутом у руках. Ды з першага ўдару перабіў няпрошанаму госцю руку. Кажуць, быццам костка ўжо зраслася, але злодзея і дагэтуль толькі пры адным напамінку пра гародніну ў дрыжыкі кідае.

### Нарадзіць не паспела

Ганна І., атрымаўшы дэкрэтны водпуск, прыехала з Мінска на Салігоршчыну адпачыць у сваякоў. І аднойчы смела села на матацыкл, якім кіраваў Іван З. Бо за рулём яго не хлапчанё, а шасцідзесяцігадовы мужчына. Зусім цвярозы...

Але на дарозе Белае Балота — Рачкавічы матацыкліст раптам урэзаўся ў аўтобус. Які проста стаяў каля дарогі. Ад атрыманых траўм жанчына памерла. Што ж, дарога — гэта заўсёды небяспека. Аб чым нельга забываць.

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

